*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2017, № 5(15). Травень

## Знойдзены планы слонімскага замка XVIII стагоддзя

*Яны адлюстраваныя на картах, выдадзеных у 1770-я гады ў Парыжы і Аўгсбургу*




Планы слонімскага замка, які з XVI стагоддзя існаваў на так званым "Замчышчы" каля цяперашняй Опернай вуліцы, найхутчэй не захаваліся. Рэканструкцыя Алены Квітніцкай, на якой можна пабачыць замак з чатырма вежамі ("Помнікі Слоніма", с. 15), прыблізная, яна не грунтуецца на нейкіх фактычных дадзеных. Першы дакладны план "Замчышча" адносіцца да канца XVIII стагоддзя, да часоў старосты Міхала Казіміра Агінскага, калі былы замак быў ужо перабудаваны ў палац. Неабходны маштабныя раскопкі, якія, спадзяемся, у будучыні будуць праведзеныя і дапамогуць нам рэканструяваць слонімскі замак. А пакуль паспрабуем аднавіць яго абрысы з дапамогай старажытных картаў.

*Працяг на ст. 6.*

## Ён хацеў упрыгожыць Слонім



30 красавіка не стала слонімскага скульптура Леаніда Богдана. Ён і яго жонка былі забітыя, як мяркуе следства, блізкім сваяком. Гэтая трагедыя шакіравала не толькі наш горад, пра яе паведамлялі ўсе рэспубліканскія СМІ. Не верылася, што гэта праўда… Богдану было 63 гады. Ён шмат паспеў зрабіць для нашага горада і для нас, слонімцаў. У яго яшчэ было нямала цікавых задумак. Шкада, што не паспеў іх рэалізаваць.

У гэтым нумары "СК" пра Леаніда Богдана піша Сяргей Чыгрын, які з ім быў добра знаёмы.

*Чытайце на ст. 3-5.*

*ХРОНІКА*

# Пра былы будынак міліцыі



*Фота Сяргея Чыгрына*

На круглым стале, які прайшоў у райвыканкаме 19 красавіка, начальнік аддзела эканомікі Валянціна Мурашка расказала пра лёс былога будынка міліцыі ў Слоніме. Ён быў пабудаваны на Маставой вуліцы (цяпер — Янкі Купалы) ў пачатку XX стагоддзя. З 2012 года будынак пустуе, паколькі расійскі бізнесмен, які яго купіў, яшчэ не мае гатовага праекту рэстаўрацыі. Меркавалася, што там будзе адкрыты гандлёвы цэнтр. Ці не зменяцца гэтыя планы, пакуль невядома.

# Вулічныя баі



*Фота: slonves.by*

22 красавіка ў Слоніме адзначала свае 75-я ўгодкі 11-я гвардзейская асобная механізаваная брыгада. Акрамя маршу тэхнікі і вайскоўцаў, выступлення аркестра, слонімцы пабачылі на Чырвонаармейскай вуліцы рэканструкцыю аднаго з баёў 1945 года (зразумела, не ў нашым горадзе, а ў Берліне).

*ПОШТА*

# Фатографы і пажар 1881 года



Зцікавасцю прачытаў артыкул Сяргея Чыгрына пра слонімскіх фатографаў, якія працавалі каля ста гадоў таму.* Было б цікава даведацца пра слонімцаў, якія ў XIX стагоддзі першыя заняліся фотасправай. Гэта, відаць, 1860-1870-я гады. Пра некаторых з гэтых людзей сустрэў інфармацыю ў кнізе “Кронан”, што выйшла ў Гродне.**

Пасля жахлівага пажару 25 траўня 1881 года, які знішчыў значную частку горада (у тым ліку і цэнтральныя вуліцы, на якіх знаходзіліся фотамайстэрні), некаторыя фатографы падаліся ў іншыя гарады. У губернскі Гродна пераехаў Якаў Ісакавіч Салавейчык. Ужо ў чэрвені 1881-га ён атрымаў дазвол на адкрыццё фотамайстэрні, але не давялося яму доўга папрацаваць. Якаў Салавейчык памёр у 1884 годзе, яго справу працягнуў сын Восіп.

Слонімскі фотамайстар Мордух Саламонавіч Папірны пераехаў у Гродна толькі ў 1884 годзе. У ліпені ён атрымаў дазвол на адкрыццё фотамайстэрні. Яна вядомая яшчэ ў 1900 годзе.

Магчыма, камусьці ўдасца больш даведацца пра гэтых нашых землякоў.

**● М. І.**

**Чыгрын С. Слонімскія фатографы пачатку XX стагоддзя // Слонімскі край, 2017, № 4(14). Красавік. С. 4-5.*

***Госцеў А., Швед В. Кронан. Летапіс горада на Нёмане (1116 – 1990 гг.). – Гродна, 1993. С. 194, 213.*

СЛОВА НА РАЗВІТАННЕ

# Ён хацеў упрыгожыць Слонім




У апошні дзень красавіка трагічна загінуў адзін з таленавітых людзей Слоніма Леанід Богдан, якога ад нараджэння Бог надарыў талентам мастака.

У школе Лёня быў звычайным хлопчыкам, нават трохі сарамлівым. Але, калі пачынаў нешта рабіць — майстраваць ці маляваць — то атрымлівалася лепш за ўсіх школьнікаў і нават настаўнікаў.

Праўда, пасля школы лёс яго закінуў не ў мастацкае вучылішча, а ў чыгуначны тэхнікум. Аднак жаданай рамантыкі ў тэхнікуме і на чыгунцы ён не знайшоў. Таму хутка паступіў у Маскоўскі завочны народны ўніверсітэт мастацтваў. Вучыўся на факультэце жывапісу і графікі. Вучоба падабалася, і Леанід шмат даведаўся новага і цікавага пра скульптуру. А пасля сесій і працы з радасцю браўся за гліну і пластылін, з якіх ён ляпіў знаёмых, сяброў і суседзяў.

Калі скончыў універсітэт, Леанід нікуды не паехаў, а назаўсёды свой лёс звязаў з родным Слонімам, які вельмі моцна любіў. Ён хацеў, каб ягоны горад над Шчарай быў самым прыгожым у Беларусі, і каб яго штогод наведвалі тысячы турыстаў з усіх краін свету.

У 1970-я-1980-я гады Леанід Богдан працаваў у Слоніме на розных работах, але найбольш падабалася працаваць мастаком-афарміцелям у кінатэатры “Мір”. Ён не толькі выконваў мастацкія працы ў кінатэатры, але сур’ёзна захапіўся скульптурай, а потым — і гісторыяй роднага краю, біяграфіяй яго знакамітых людзей. Ён стаў шмат чытаць, знаходзіць матэрыялы па гісторыі Слонімшчыны, Беларусі, па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. І вядома ж, ствараць партрэты знакамітых людзей.

Першымі яго самастойнымі бюстамі былі партрэты касманаўта Юрыя Гагарына і паэта Валянціна Таўлая. Калі працаваў над бюстам Таўлая, шмат перачытаў літаратуры пра яго, вершаў паэта. Нават кансультаваўся ў слонімскага паэта Анатоля Іверса (Івана Міско), які некалі сябраваў з Валянцінам. Менавіта ад Іверса Леанід даведаўся і пра гісторыю Слонімшчыны, пра дзейнасць у 1920-я гады Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. У 1987 годзе Богдан зрабіў і выдатны бюст паэта Анатоля Іверса.

А потым слонімскі мастак зацікавіўся творчасцю Адама Міцкевіча. Перачытаў яго паэмы. А адна з іх — “Гражына” — проста зачаравала Леаніда Богдана. Пасля гэтага ён стварае скульптурны вобраз Гражыны — наваградскай князёўны. Лічу, гэта адна з найвыдатнейшых ягоных прац.

Дзесьці ў канцы 1980-х гадоў я і пазнаёміўся з Леанідам. Памятаю, быў час, калі ён на Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыцы так прыгожа аформіў дыскатэку, што гэта была адна з найлепшых тагачасных дыскатэк. А ў гарбыткамбінаце ён зрабіў цудоўны тэнісны корт. Ды і сам час ад часу любіў пагуляць у тэніс.

І ўсё ж мастацтва і скульптура ў ім проста жылі і перамагалі. Леанід стварае бюсты сваіх сяброў, пісьменнікаў, дзеячоў грамадскага руху 1920-х-1930-х гадоў. Ён вылівае іх з гіпсу і дорыць бясплатна не толькі сябрам і знаёмым, але і школам, бібліятэкам, музеям. Нават зрабіў мой бюст у 1999 годзе. Адзін асобнік падараваў мне, ён знаходзіцца ў маім хатнім кабінеце.

Шчыра сябраваў Леанід Богдан з нашым земляком доктарам філалагічных навук, прафесарам Алегам Лойкам. І яго бюст таксама зрабіў.

Ён стварыў вялікі герб Слоніма. І дзесяткі маленькіх. Марыў вялікі герб Слоніма паставіць у цэнтры горада.

Леанід Богдан быў, як кажуць, майстрам на ўсе рукі. Сотні разоў бываючы ў яго майстэрні, я здзіўляўся яго апантанасці,

# Ён хацеў упрыгожыць Слонім

майстэрству, фантазіі. Лёня быў сціплым чалавекам, не кожнаму ён мог расказаць пра свае творчыя планы, а тым больш паказаць, як ён працуе, шліфуе, перарабляе. З ім трэба было сябраваць доўга і шчыра, бо толькі тады ён мог па-сяброўску распавесці пра свае творчыя задумкі.

У яго майстэрні заўсёды ішоў творчы працэс. Шмат часу ён аддаў, працуючы над помнікам Статуту Вялікага Княства Літоўскага 1588 года. Лёня мне казаў, што ён мяркуе гэты помнік ўсталяваць у Слоніме ў цэнтры горада каля музея замест бюста арла, які там стаіць, бо “той арол зусім не пасуе”. На спецыяльным пастаменце, распавядаў Леанід, будзе ляжаць сам вялікі Статут. На Статуце — адціснутая далонь. Кожны слонімец ці госць горада зможа падыйсці да гэтага помніка-кнігі, прачытаць яе назву і даведацца, што гэта Статут Вялікага Княства Літоўскага, гэта значыць — звод законаў нашай дзяржавы, помнік беларускай пісьменнасці, мовы і юрыдычнай думкі. Чалавек прыкладзе ў адціснутую далонь сваю, нібыта зложыць клятву перад Статутам у любові да сваёй Бацькаўшчыны.

Гэта дзякуючы Леаніду Богдану мы маем у Слоніме мемарыяльную шыльду, прысвечаную заснавальніку Слонімскага краязнаўчага музея Язэпу Стаброўскаму, якая прымацавана на будынку. Гэта Леанід зрабіў шыльду піянеру-герою Васі Крайняму. І яго заслуга ў тым, што ён стварыў і прымацаваў на будынку Слонімскага драмтэатра шыльду, прысвечаную Міхалу Казіміру Агінскаму (1730 — 1800), пачынальніку тэатральнага мастацтва на Слонімшчыне. І ўсё гэта




*Леанід Богдан прымацоўвае шыльду да сцяны тэатра.*

Леанід Богдан зрабіў бясплатна і падараваў нашаму гораду.

Нядаўна Леанід паклікаў мяне ў майстэрню і паказаў сваю новую працу, прысвечаную Агінскім. Я ўбачыў, што на барэльефе адлюстраваны слонімскі староста Міхал Казімір Агінскі, які сядзіць за піяніна, а побач стаіць яго пляменнік Міхал Клеафас Агінскі са скрыпкай, аўтар шматлікіх паланэзаў, у тым ліку і паланэз ля мінор “Развітанне з Радзімай”. На крышцы піяніна напісаныя словы: “Слонім. Агінскія. Паланэз”. А воддаль, нібы праз акно, віднее стары Слонім з яго архітэктурным аблічам XVIII-XIX стагоддзяў. Цудоўная задума і твор скульптара — яшчэ адзін помнік славутым Агінскім, лёс якіх быў звязаны і са старажытным горадам над Шчарай.

На вуліцы Савецкай у Слоніме захаваўся будынак другой паловы XVIII стагоддзя, пабудаваны архітэктарам Боем, які ён праектаваў пры палацы Міхала Казіміра Агінскага. Пры палацы Агінскага ў гэтым будынку была аўстэрыя (заезны дом). Ён сёння нагадвае слонімцам і гасцям горада пра Міхала Казіміра Агінскага. Некалі свой Слонім Агінскі ператварыў у “сядзібу музаў”, вядомую ва ўсёй Еўропе, але сёння амаль забытую ў Беларусі. Слонімскі скульптар Леанід Богдан стварыў бюст Міхала Казіміра Агінскага. Ён марыў яго ў спецыяльнай арцы прымацаваць на былой аўстэрыі Агінскага. Каб слонімцам і гасцям горада над Шчарай было бачна, хто з’яўляўся некалі яго гаспадаром.

Нядаўна на вуліцы Опернай у Слоніме быў пастаўлены вялікі валун. На ім выбіты тэкст: Замчышча і гады: XI-XVIII ст.ст. Гэта таксама работа Леаніда Богдана. Гэты валун будзе нагадваць слонімцам і пра скульптара.

Ці не апошняй нашай сумеснай паездкай на аўтамабілі Леаніда была вандроўка ў вёску Орлавічы на магілу Стаброўскіх. З намі разам паехалі яшчэ мастак Яўген Іваноў і грамадская актывістка Леанарда Рэўкоўская. Мы прыбралі магілы, запалілі лампадкі, а Леанід, гледзячы на драўляныя крыжы, маўчаў. Ён глыбока задумаўся, а потым сказаў: “Нельга, каб былі такія магілы Стаброўскіх. Іх трэба добраўпарадкаваць і паставіць сучасныя помнікі. Я зраблю іх праекты, а пасля будзем усе разам думаць пра помнікі. Ды і дарога сюды павінна быць вартая, дарога да Стаброўскіх”.

Мы з ім пагадзіліся. А па дарозе ў Слонім Леанід распавядаў пра свае новыя планы, найперш звязаныя з Малым каналам Агінскага і з праектам па яго добраўпарадкаванню, удзел у якім ён ужо актыўна прымаў. Але трагічны лёс раптоўна перакрыжаваў усе планы Леаніда Богдана. А яму ў жніўні споўнілася б толькі 64 гады.

● ***Сяргей Чыгрын***




*Кніга-помнік ад Леаніда Богдана.*



*Праца, прысвечаная Агінскім.*




*Герб Слоніма, сувеніры.*




*Шыльда на будынку Слонімскага краязнаўчага музея.*

# Знойдзены планы слонімскага замка XVIII стагоддзя




*Фрагмент карты Ёгана Гомана 1739 года.*

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

Не на ўсіх картах замкі абазначаліся нейкімі адметнымі, не сімвалічнымі малюнкамі. Напрыклад, на карце Ёгана Гомана ад 1739 года адным малюнкам абазначаныя замкі ў Слоніме, Ваўкавыску, Гродне, Нясвіжы, іншых гарадах. Магчыма, у аўтара не было інфармацыі пра тое, як яны выглядалі, альбо ён проста спраціў сваю працу.

А вось Матэус Зойтэр на карце 1735 года выдання (Аўсбург) пазначаў замкі неаднолькава. Ён іх падзяліў на тры часткі.




*Фрагмент карты Фрэдэрыка дэ Віта, 1689 г.*




*Фрагмент карты Матэуса Зойтэра, 1735 г.*

У першую трапілі сціплыя замкі, якія мелі аднастайнае абазначэнне (Беліца, Гарадок, Мір ды іншыя), у другую — крыху большыя (Ваўкавыск, Кобрын, Мыш і г.д.). Слонім трапіў у лік найбольшых замкаў ВКЛ, мае аднолькавае абазначэнне з Вільняй, Гроднам, Навагрудкам, Лідай, Нясвіжам, Слуцкам. Таму малюнак на гэтай карце не дае нам уяўлення пра выгляд замка — толькі пра яго значэнне на той час.

Абрысы слонімскага замка можна пабачыць на карце Фрэдэрыка дэ Віта (Амстэрдам, 1689). Калі дапусціць, што выява не абстрактная, то перад намі замак такі, якім ён быў у сярэдзіне XVII стагоддзя, да яго знішчэння маскоўскімі войскамі. Праглядаюцца чатыры вежы, адна з якіх вышэйшая за іншыя. Наўрад ці аўтар карты абнавіў інфармацыю за тры наступныя дзесяцігоддзі, тым больш, што замак аднаўляўся марудна.

Абрысы слонімскага замка да яго знішчэння ёсць і на карце Нікаля Сансона (Парыж, 1665). Вежаў у замку праглядаецца 5-6. Вежа слонімскага замка відаць на “Радзівілаўскай” карце 1613 года.

На картах XVIII стагоддзя ёсць некалькі планаў тагачаснага слонімскага замка г. зн. адбудаванага Сапегамі і яшчэ не перабудаванага пад сваю рэзідэнцыю Агінскім. Спынімся спачатку на карце Тобіяса Конрада Лотара (Аўгсбург, 1778). На ёй замак у Слоніме адлюстраваны ў выглядзе ромба, у ім чатыры вежы. Параўноўваючы з выявамі іншых беларускіх замкаў, планы якіх нам вядомыя, можна зрабіць выснову, што аўтар карты быў не зусім дакладны. Паводле плану замак знаходзіўся насупраць мосту праз Шчару, а адна з вежаў была ўязной. Гэта не адпавядае сапраўднасці, паколькі замак быў побач з мостам. Атрымліваецца, што план слонімскага замка на карце Лотара мы можам успрымаць як прыблізны.



*Фрагмент карты Тобіяса Конрада Лотара, 1778 г.*



*Фрагмент карты Нікаля Сансона, 1665 г.*



*Фрагмент “Радзівілаўскай” карты ВКЛ. Амстэрдам, 1613.*

У 1772 годзе ў Парыжы італьянскі картограф Джаванні Антоніё Рыцы-Заноні выдаў падрабязны атлас Рэчы Паспалітай. Для нас найбольш цікавая карта Навагрудскага і Мінскага ваяводстваў. Што мы на ёй бачым? Слонім абазначаны размешчаным на левабярэжжы Шчары замкам. Ён уяўляе самой шасцікутнік з далучаным да яго квадратам. Атрымліваецца, што замак меў шэсць вежаў у шасцікутніку плюс дзве вежы ў квадраце. Апошні прыкрываў



*Фрагмент карты Джаванні Антоніё Рыцы-Заноні, 1772 г.*

адзіны ўваход у замак. Аналізуючы падобныя планы тагачасных еўрапейскіх замкаў, прыходзім да высновы, што ў квадраце, паміж двума брамамі мог быць роў з мостам. Першая брама, уязная, магла быць у адной з вежаў (хаця гэта не абавязкова), напрыклад, у правай, якая выглядае вышэйшай за астатнія.

На тэрыторыі замка мы бачым чатыры вялікія будынкі і нейкі малы аб'ект (калодзеж ці капліца?). Аднак нам невядома, ці аўтар карты дакладна прамалёўваў будынкі ці адвольна. Ёсць інфармацыя, што італьянец карыстаўся калекцыяй картаў і дакументаў наваградскага ваяводы Юзафа Аляксандра Ябланоўскага (ён згадваецца ў атласе, у тым ліку і як фундатар). Можна ўявіць, якія сапраўдныя скарбы там былі! Зусім магчыма, што там быў і план слонімскага замка, якім скарыстаўся Джаванні Антоніё Рыцы-Заноні. Іншая справа, што мы не ведаем, наколькі дакладна ён яго намаляваў (на карце планы ўсіх вялікіх замкаў адлюстраваны па-рознаму, значыць, аўтар імкнуўся перадаць асаблівасці кожнага з іх) і да якога часу ён адносіцца.

Ці менавіта так замак і мог выглядаць да таго, як слонімскі староста Міхал Казімір Агінскі ў 1760-я пачаў яго маштабную перабудову пад рэзідэнцыю? Зусім не факт. Даследчык Анджэй Цеханавецкі лічыў, што "слонімскі замак да канца свайго існавання заставаўся даволі сціплым збудаваннем". Але ў той жа час ён прызнае, што двор падканцлера ВКЛ Антона Міхала Сапегі ў Слоніме "быў значнай рэзідэнцыяй". У 1756 годзе ў ім адбыўся з'езд усіх вышэйшых дзяржаўных асоб княства. Сапега памёр у 1760-м, праз год яго жонка Аляксандра Сапега (Чантарыская) ўзяла шлюб з Міхалам Казімірам Агінскім. Цеханавецкі дапускае, што Агінскі "толькі вельмі нязначна пашырыў і перабудаваў рэзідэнцыю, атрыманую ад Сапегі".* Калі гэта так, то большасць умацаванняў замка (драўляныя сцены, вежы) зніклі яшчэ пры Сапегу (альбо яшчэ да яго). Засталіся толькі роў вакол замка ды мост…



*План слонімскага замка XVIII ст.*

Што яшчэ цікавага мы бачым на карце Джаванні Антоніё Рыцы-Заноні? Падрабязна пазначаныя населеныя пункты на поўдзень ад Слоніма: Рышчыцы, Букаўцы (Бакуновічы?), Шылавічы (праўда, чамусьці на левым беразе Шчары), на правым беразе памылкова перасунутыя на поўдзень Якімавічы і Савічы (на карце іх назвы скажоныя). Ва ўсіх гэтых населеных пунктах, нібыта, былі цэрквы. Жыровічы Малыя і Вялікія знаходзяцца на вялікай адлегласці. У іншых раёнах Слонімшчыны населеныя пункты пазначаныя ўжо не так падрабязна.

Знаходкі на старажытных картах мусяць заахвочваць да далейшых пошукаў. Магчыма, што ў замежных архівах нас чакае нямала неспадзяванак, і мы зможам значна ўзбагаціць нашыя веды пра старажытную гісторыю Слоніма.

● ***Сяргей Ёрш***

**Цеханавецкі А. Міхал Казімір Агінскі і яго "сядзіба музаў" у Слоніме. — Мінск, 2006. С. 77-79.*

# Шляхта Слонімскага павета

У Мінску ў 2012 годзе з друку выйшла кніга на рускай мове Яўгена Анішчанкі “Шляхта Слонимского повета”. У сваёй кнізе аўтар склаў поўны спіс мясцовай шляхты (прывілеяванага саслоўя, дваранства) першай паловы XVIII стагоддзя. Гэта было зроблена ўпершыню. Спіс слонімцаў, якія адносілі сябе да шляхты, даследчык узяў з судовых кніг па Слонімскім павеце, якія цяпер зберагаюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі. Улік шляхецкіх уладанняў, а ў іх маёнткаў і саміх уладальнікаў, вёўся ў кнігах па двух прынцыпах. У апісанні павета 1738 года перапіс маёнткаў вёўся па каталіцкіх парафіях: Слонімская, Мізгіроўская, Азгінавіцкая і г. д. Групіроўка адбывалася і па знаходжанні каля трактаў ці вялікіх паштовых дарог з належнымі да іх маёнткамі. Напрыклад, у тым жа 1738 годзе быў Мізгіроўскі тракт, у 1750-м — Плаўскі, у 1779-м — Азгінавіцкі і г. д.




Ёсць у кнізе і спіс шляхты Слонімскага павета ад 10 сакавіка 1798 года. Ён быў пададзены праз земскі суд для доказаў шляхетнасці ў канцылярыю “генеральнай вывадовай камісіі Літоўскай губерні” на імя яе дэпутата Ігната Валовіча і генеральнага сакратара Тадэвуша Кукевіча ў дзвюх кнігах на 180 прозвішчаў. Сярод іх сустракаюцца прозвішчы Блажыеўскі, Жукоўскі, Куроўскі, Корчыц, Маркевіч, Вайніловіч, Рак, Міхневіч, Стаброўскі, Шаціла, Эйсмант і іншыя.

Друкуецца ў кнізе і спіс жыхароў Слонімскага павета ў першай палове XVIII стагоддзя. Давайце адсочым, якія людзі жылі ў вёсках 260 гадоў таму і якія яны мелі прозвішчы. Напрыклад, у Вераб’евічах жылі сяляне Дзмітрый і Нічыпар Адамчыкі, у Езярніцы (Азярніцы) — Лаўрын і Якім Апанасовічы, Лукаш, Грысь, Ян Белкі, Самусь Бенсік, у Сянкоўшчыне (Сянькоўшчыне) — Архор Бурштык, яго браты Ерамей, Ціхан, Хведар, у Акунінава — Мартын Бута, у Пасынічах (Пасінічах) — Андрэй і Рыгор Быцко, Даніэль і Міхась Важэўскія, у Касцянёва (Касцянях) — Яска, Аляксей, Антон, Васіль, Пятро Вашчылы, у Пераралоцы — Адам Гамаліцкі і г. д.

Кніга Яўгена Анішчанкі з’яўляецца зыходным матэрыялам для дэталёвага даследавання генеалогіі названых асобаў у любой яе рэтраспекцыі.

● ***Сяргей Чыгрын***

# Пячатка шляхціча Марціна Тура




Старажытныя пячаткі прыватных ці службовых асобаў захаваліся ў адзінкавых асобніках. Звычайна мы маем інфармацыю пра іх па адбітках на дакументах. Таму знаходка арыгінальнай пячаткі — сапраўдная падзея.

На сайце saleprise.blogspot.com.by пабачыў фотаздымкі пячаткі XVIII стагоддзя шляхціча са Слонімскага павета Марціна Тура. Вядома, што ён не толькі быў вайскоўцам (на 1805 год — ротмістр), але і займаў уплывовыя пасады ў мясцовай адміністрацыі ў Слоніме (“уезны слонімскі”, “павятовы скарбнік”). На пячатцы Тура можна пабачыць герб “Коўня”.

● ***Арцём Салейка***

# Слонім у 1904 годзе

У царскай Расіі выходзіла нямала статыстычных выданняў, якія змяшчаюць каштоўную інфармацыю па ўсіх сферах жыцця нашых продкаў. Кніга, выдадзеная ў Санкт-Пецярбургу, прысвечана толькі аднаму году — 1904-му, яна грунтуецца на дадзеных статыстычных камітэтаў, у тым ліку і Гродзенскай губерні.

Нас жа цікавіць інфармацыя пра Слонім. Яго насельніцтва складалася з 23 тысяч жыхароў (з іх 11 тысяч асоб мужчынскага полу). У горадзе было 1678 будынкаў, з іх толькі 432 былі мураваныя, астатнія — драўляныя. Акрамя адной плошчы, у Слоніме налічвалася 39 вуліц і завулкаў, іх працягласць складала 13,8 вёрст (адна вярста — 1066,8 метра), 8,4 вярсты былі забрукаваныя, а 3 вярсты абсаджаныя дрэвамі.

У Гродзенскай губерні вадаправод быў толькі ў Слоніме, Беластоку і Гродне. Наш горад асвятляўся 128 газавымі ліхтарамі (электрычнасці не было). У той час у Ваўкавыску такіх вулічных ліхтароў было 143, у Пружанах — 38, у Кобрыне — 91, у Гродне — 286. На адзін ліхтар у Слоніме прыпадала амаль 54 сажані вуліцы (сажань — 2,1336 метра). Для параўнання, у Гродне — амаль 36 сажаняў, у Ваўкавыску — 42, у Кобрыне — 72, у Пружанах — амаль 139.

У Слоніме ў 1904 годзе жылі 10% праваслаўных, 11% католікаў, 4% мусульман і 75% іудзяў, пратэстантаў жа не было ўвогуле. Дзейнічалі 4 праваслаўныя і 2 каталіцкія храмы, 1 жаночы каталіцкі кляштар. Галоўная сінагога, якая была адрэстаўраваная пасля пажару 1881 года, не згадваецца, як не згадваецца і адбудаваная мячэць. А ў пачатку XX стагоддзя сінагог у горадзе было сем, тры з іх мураваныя.* Атрымліваецца, што ў кнізе ёсць недакладнасці.


ЦЕНТРАЛЬНЫЙ СТАТИСТИЧЕСКІЙ КОМИТЕТЪ М. В. Д.

ГОРОДА РОССІИ

въ 1904 году.

С.-ПЕТЕРБУРГЪ.
1906.

*Города Россіи въ 1904 году. — Санкт-Петербургъ, 1906. — 910 с.*

У горадзе былі 2 бальніцы, у іх налічвалася 55 месцаў для пацыентаў. Дзейнічалі 2 аптэкі і 7 аптэчных крамаў, працавалі 5 урачоў, 5 акушэраў, 5 фельчараў і 1 ветэрынар.

Гасцініц і "нумароў" у Слоніме налічвалася 14 (для параўнання, у Ваўкавыску іх было 6, у Кобрыне — 9, у Пружанах — 3, у Беластоку — 17, у Гродне — 22, у Брэсце — 16). Корчмаў, харчэўняў і чайных у горадзе было 9 (у Ваўкавыску — 5, у Гродне — 59, у Кобрыне — 23).

У Слоніме працавалі 4 бібліятэкі, дзейнічалі 5 мужчынскіх і 4 жаночых ніжэйшых навучальных устаноў. У мужчынскіх працаваў 21 настаўнік, у іх былі 576 вучняў, у жаночых працавалі 9 настаўніц, былі 315 вучаніц.

У той час у нашым горадзе былі 34 фабрыкі і заводы, на якіх працавалі 570 рабочых (для параўнання, у Ваўкавыску — 22, 200; у Гродне — 69, 2043; у Кобрыне — 23, 148). Слонім уваходзіў у лік 13 гарадоў "паўночна-заходніх губерній", у якіх сума фабрычна-заводскай вытворчасці перавышала 1 мільён рублёў (у гэтым спісе — Вільня, Ліда, Гродна, Мінск, Коўна, Пінск, Беласток і г. д.). Было зарэгістравана 636 рамесных устаноў, у іх працавала 1507 чалавек (больш рамеснікаў у губерні было толькі ў Гродне, Брэсце і Беластоку). Найбольш распаўсюджаным промыслам у горадзе лічыўся гандаль, у ім былі задзейнічаны 6580 чалавек.

Кірмашоў і "таржкоў" найбольш па Гродзенскай губерні было ў Слоніме — 13 (вясной — 4, летам, восенню і зімой — па 3). Гандлявалі ў асноўным быдлам і сельскагаспадарчымі прадуктамі. У тыдзень у горадзе ладзіўся адзін "базар". Існавалі 5 складоў "хлеба" (збожжа) і 7 складоў лесу.

У Слоніме была 1 турма. Паліцэйскіх налічвалася 34 чалавекі. Адзін паліцэйскі прыходзіўся на 767 жыхароў (для параўнання — у Гродне быў адзін паліцэйскі на 701 жыхара, у Ваўкавыску — 664, у Брэсце — 762).

У Слоніме на 1904 год не было перыядычных выданняў, не было банкаў і іх аддзяленняў, не было ламбардаў, тэлефоннай сувязі, тэатра, музея. Дзейнічала адно таварыства ўзаемнага крэдыту з асноўным капіталам 13,4 тысячы рублёў, адна банкірская кантора, працавалі 9 страхавых агентаў, 2 натарыяльныя канторы, 3 друкарні (у Гродне была 1 друкарня, у Брэсце — 8, у Беластоку — 11, у Ваўкавыску — 2), 1 літаграфія, 2 фотамайстэрні.

Паводле статыстычных дадзеных, змешчаных у кнізе, даход гарадскога бюджэту ў 1904 годзе складаў 31,2 тысячы рублёў, выдаткі — 30,8 тысячы, доўг — 10,2 тысячы рублёў.

● ***Сяргей Ёрш***

**Караткевіч В., Кулагін А. Помнікі Слоніма. — Мінск, 1983. С. 22.*

# Вядомы расійскі бізнесмен расказаў, як у Слоніме даведаўся пра арышт Берыі




Дзмітрый Зімін — вядомы расійскі бізнесмен 1990-2000-х гадоў, навуковец-радыётэхнік, мецэнат, стваральнік "Білайна" і фонду "Дынастыя". 28 красавіка яму споўнілася 84 гады. Напярэдадні гэтай даты з'явілася інтэрв'ю Зіміна, у якім ён згадаў наш Слонім.*

"У 1953 годзе, калі Берыю** арыштавалі, мы былі студэнтамі першага курсу ў шыхтавых лагерах у горадзе Слоніме ў Беларусі, — успамінае Зімін. — Намеснік па палітычнай частцы сабраў і аб'явіў, што выкрылі агента мусавацісцкай выведкі… Мне запомнілася гэтае слова".

На той час Дзмітрый Зімін быў студэнтам факультэта радыёэлектронікі лятальных апаратаў Маскоўскага авіяцыйнага інстытута. У іншай публікацыі ён успамінаў, што ў 1953 годзе разам з іншымі студэнтамі, з якіх на ваеннай кафедры рыхтавалі афіцэраў, быў у "ваенных лагерах": "Нас вывезлі ў горад Слонім на мяжы з Польшчай у танкавую дывізію, якая ў той час была на зборах. У казарме змясцілі, далі мясцовых сяржантаў… Мы ж шэрагоўцы, ненавучаныя. Другія лагеры ў Кубінцы на старшых курсах былі ўжо спецыялізаваныя: аэрадромная радыёслужба, радыёмаякі".***

● *Падрыхтаваў* ***Генадзь Гурскі***

**Это обратная сторона прогресса. Дмитрий Зимин об одичании и терпимом отношении к рабству // https://www.dp.ru/a/2017/04/27/JEto_obratnaja_storona_prog*

***Лаўрэнцій Берыя (1899 — 1953), шматгадовы кіраўнік савецкіх карных органаў, на момант арышту быў міністрам унутраных спраў СССР. Расстраляны.*

***Кузьмичев А. Фанаты бизнеса. Истории о тех, кто строит наше будущее. — Москва, 2011.*

# Пра слонімцаў, рэпрэсаваных ва Украіне

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 355 | Ермак | Микола | Данилович | 1898 | Білорус | Мінська губернія Новогрудський повіт село Осиповщина | станція Красний Л |
| 356 | Ермощин | Ісак | Якович | 1904 | Білорус | БРСР Полоцький округ Ушацький район село Зборовно | Донецька область |
| 357 | Ерушкевич | Марк | Семенович | 16.01.1899 | Білорус | Донецька область Артемівський район рудник Терещенський | місто Сталіно Пут |
| 358 | Єфимов | Єгор | Володимирович | 1909 | Білорус | місто Гомель | Донецька область |
| 359 | Єфімчик | Сергій | Артемович | 1903 | Білорус | Польща, м. Барановичи | Кримська АРСР м. |
| 360 | Жабуяц | Володимир | Васильович | 1900 | Білорус | Білорусія місто Мінськ | Донецька область |
| 361 | Жарська | Марія | Давидівна | 1907 | Білорус | Польща Віленська губернія село Заболоти | Донецька область |
| 362 | Жарський | Михайло | Семенович | 1884 | Білорус | Мінська область Н-Трудський район с. Вербиця | уманський район |
| 363 | Жарський | Степан | Антонович | 1911 | Білорус | Польща Віленська губернія Віленський район село Замостье | Донецька область |
| 364 | Жарський | Никифор | Пилипович | 07.11.1899 | Білорус | Польща с. Замоще | місто Костянтинів |
| 365 | Жданович | Матвій | Якович | 1899 | Білорус | Польща село Червонна | Сталінська област |
| 366 | Жданюк | Михайло | Йосипович | 1903 | Білорус | Польща Гродненська губернія с. Зеньківці | Київська область |
| 367 | Жемякін | Дмитро | Васильович | 1886 | Білорус | с.Сурсько-Литовське Дніпропетровського району Дніпропетровської області | с.Сурсько-Литовсь |
| 368 | Жигалов | Олександр | Васильович | 1911 | Білорус | Польща, Новогрудська губернія, с. Дрогилово | Полтавська облас |
| 369 | Жиглінський | Альфонс | Михайлович | 1906 | Білорус | Білорусія Смолевичеський район село Россохи | Донецька область |
| 370 | Жиліч | Василь | Степанович | 16.11.1887 | Білорус | Польща Гродненська губернія Слонімський повіт Чемерська волость с. Драпово | Донецька область |
| 371 | Жиліч | Михайло | Романович | 23.05.1885 | Білорус | Польща Гродненська губернія Слонімський повіт с. Драпово | Донецька область |
| 372 | Жиліч | Петро | Лукич | 02.01.1896 | Білорус | Польща Гродненська губернія Слонімський повіт с. Драпово | Донецька область |
| 373 | Жилко | Зіновій | Хомич | 1868 | Білорус | Польща Пінський повіт с. Кухоцька Воля | Місто Полтава вул |

Радыё Свабода апублікавала матэрыял пра беларусаў, рэпрэсаваных у савецкія часы ва Украіне. Як вядома, у нашай паўднёвай суседцы адкрытыя архівы. Сярод амаль 2 тысяч беларусаў ёсць і слонімцы. Напрыклад, у Данецкай вобласці былі рэпрэсаваныя трое ўраджэнцаў вёскі Драпава Слонімскага раёна: Васіль Сцяпанавіч Жыліч (1887 г. н.), Міхаіл Раманавіч Жыліч (1885 г. н.), Пятро Лукіч Жыліч (1896 г. н.). Іх сваякі маглі б пазнаёміцца з крымінальнымі справамі сваіх дзядоў і прадзедаў.

● ***СЁ***

ЛЁСЫ ЗЕМЛЯКОЎ

# Успаміны Аляксандра Асіпчыка

Аляксандр Асіпчык нарадзіўся 1 красавіка 1909 года ў вёсцы Пляшкі (цяпер гэта вёска Партызанаўка) Слонімскага павета ў сялянскай сям'і Восіпа і Паўліны Асіпчыкаў. У лістападзе 1915 года, падчас Першай сусветнай вайны, іх сям'ю, як і многіх беларускіх вяскоўцаў, рускія казакі гвалтам вывезлі ў Расію, у бежанства. Па чыгунцы яны даехалі да Астрахані. Там жылося няпроста. Але Аляксандр хадзіў у школу. Скончыў у Расіі чатыры класы.

Неяк валасны камісар паклікаў усіх бежанцаў і сказаў, што, хто хоча вяртацца на Радзіму, можа збірацца ў дарогу, бо вайна скончылася. Сабраліся дамоў і Асіпчыкі. Праўда, старэйшая сястра засталася, бо выйшла там замуж. Таму дамоў паехалі Аляксандр, яго малодшая сястра і маці. Паехалі цягніком праз Чалябінск, Екацярынбург, Самару, Смаленск, Мінск — у Слонім. Пакуль даехалі да Беларусі, усе свае рэчы распрадалі за хлеб.

Неяк іх цягнік спыніўся на тры дні ў Пензе. Маці выйшла пашукаць харчоў, а цягнік з бежанцамі ў гэты час перагналі на іншую станцыю. Жанчына спалохалася, некалькі дзён шукала сваіх дзяцей. Яна за гэты час згаладалася і змерзла. Калі прыйшла ў вагон, у яе паднялася тэмпература. У Смаленску Паўліны Асіпчык не стала...

У Слонім Аляксандр Асіпчык з сястрой прыехалі ў сакавіку 1922 года. Іх забраў Чырвоны Крыж у прытулак Жыровіцкага манастыра, адтуль перавялі ў Варшаву, а потым — у Чанстахова. Там дзяцей апранулі, кармілі і вучылі польскай мове.


*Аляксандр Асіпчык*

Пасля Аляксандр Асіпчык трапіў у вёску Дварэц (цяпер гэта Дзятлаўскі раён). У Дварцы адкрылі рамесную школу, дзе Аляксандр вучыўся сталярству. Вясной 1930 года, атрымаўшы дыплом, юнак пайшоў у жыццё самастойна зарабляць на хлеб. Але хутка яго забіраюць у польскае войска, у чацвёрты полк лётчыкаў у Торунь.

Пасля службы Асіпчык пэўны час жыў у Вільні, потым у Лідзе. А ў 1940 годзе прыехаў на родную Слонімшчыну. Працаваў настаўнікам у вёсцы Акунінава. За зробленыя грошы ён купіў у Слоніме пляц і з роднай вёскі Пляшкі перавёз свой дом у горад.

Падчас вайны Аляксандру Асіпчыку было даручана ў верасні 1942 года адкрыць у Слоніме рамесную школу, дзе вучылі кравецкай справе дзяўчат і хлопцаў. Апрача таго, хлопцы маглі вучыцца на кавалёў, слесараў, шаўцоў абутку і кіроўцаў аўтамабілямі. Сам Асіпчык выкладаў гісторыю і геаграфію Беларусі.

У якасці інструктара па кравецкай справе была запрошана ў рамесную школу і Вера Селівончык. Там яны пазнаёміліся і пакахалі адзін аднаго. Вясной 1942 года яны ўзялі шлюб.

У Слоніме падчас нямецкай акупацыі Аляксандр Асіпчык быў актыўным дзеячом беларускага культурна-асветніцкага жыцця. Апрача працы ў рамеснай школе, ён быў дырэктарам бібліятэкі і Народнага дома, дзе праходзілі ўсе важнейшыя мерапрыемствы горада, ставіліся беларускія спектаклі. Ён вёў заняткі па гісторыі і геаграфіі з вайскоўцамі, якія былі прызваныя служыць у Беларускую краёвую абарону, арганізоўваў выставы, сустрэчы. Ва ўсім яму дапамагала Вера. Яна шыла беларускія сцягі, нарукаўныя павязкі.

Калі савецкія войскі пачалі набліжацца да Слоніма, Аляксандар Асіпчык вырашыў эвакуіравацца ў Германію, бо добра ведаў, што бальшавікі яго пасадзяць у турму. Ён прапаноўваў Веры разам уцякаць, але яна адмовілася — ёй трэба было даглядаць брата-інваліда, тут былі яе ўсе родныя і блізкія людзі. А яшчэ Вера Селівончык была ўпэўнена, што ніхто яе чапаць не будзе, бо яна нічога дрэннага не рабіла, а толькі вучыла дзецей шыць. Тады Аляксандр Асіпчык развітаўся з каханым чалавекам, з сябрамі і радзімай. Ён запрог каня, сеў на воз і паехаў у бок Польшчы. З Беларусі неяк дабраўся да Германіі. Там далучыўся да бежанцаўбеларусаў.

Скончылася Другая сусветная вайна. Асіпчык шмат працаваў фізічна, матэрыяльна падтрымліваў беларускіх скаўтаў у нямецкім горадзе Рэгенсбург. 5 траўня 1946 года там адбыўся Першы з'езд праваслаўных беларусаў з амерыканскай, англійскай і французскай зонаў акупацыі Германіі. Сярод арганізатараў быў і наш зямляк. Праз год Аляксандр Асіпчык арганізуе ў Германіі Беларускае Жыровіцкае праваслаўнае брацтва. Галоўнымі яго задачамі былі "захаванне догмаў, традыцый і хрысціянскай дабрадзейнасці святой праваслаўнай веры", маральная і асветная дапамога суродзічам на чужыне, апека над царкоўным жыццём, выданне рэлігійнай літаратуры на беларускай мове, падтрымка Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы. У тым жа 1947 годзе ў Баварыі Аляксандр Асіпчык




***Паштоўка, выдадзеная Асіпчыкам у Германіі ў 1948 годзе.***

выдаў сваю кніжку "Цудатворны абраз Жыровіцкае Божае Маці і Жыровіцкі манастыр". Ён сам аформіў гэтае выданне.

У 1950 годзе Асіпчык выехаў у ЗША, жыў у Нью-Ёрку, потым — у Таронта ў Канадзе, пасля жыў і працаваў у Чыкага, у Кліўлендзе. Выдаваў на чужыне часопіс "Сіла веры" (1948-1965). Сам шмат друкаваўся пад псеўданімамі Асіповіч-Асіпчык, Зьніч, Слонімскі А., пад крыптанімам А-віч у эміграцыйных "Беларускім праваслаўным календары-1968", газетах "Бацькаўшчына", "Беларус" і іншых выданнях.

Апошнія гады жыцця Аляксандр Асіпчык правёў у г. Джэксан у штаце Нью-Ёрк (ЗША), дзе памёр 14 сакавіка 1990 года.

Жывучы на эміграцыі, Аляксандр Асіпчык напісаў успаміны "Мая Слонімшчына" і пад псеўданімам А. Слонімскі апублікаваў іх у дадатку "Думкі й погляды" часопіса "Беларускі Сьвет" (ЗША) у 1986 годзе. З сённяшняга нумару мы пачынаем іх друкаваць. Тэкст змяшчаецца з пэўным захаваннем асаблівасцяў аўтарскай лексікі і стылістыкі, з некаторымі праўкамі і нашымі каментарамі.

● ***Сяргей Чыгрын***

# Мая Слонімшчына

Аднойчы я ўжо адзначаў, што пра Слонімшчыну напісана ўжо нямала ўспамінаў і даследчых прац. Ды і ў будучыні даследаванняў будзе напісана шмат. Выканае гэта, напэўна, маладзейшае пакаленне, улічваючы і навейшыя археалагічныя знаходкі, і архіўныя матэрыялы.

Шмат пабачыў і перажыў за свой доўгі век горад Слонім. Багатая ягоная гісторыя з часоў вечавое пары, калі дрыгавіцкае племя заснавала месца на левым беразе Шчары. Назвалі дрыгавічы новае месца Услонім, а размясцілася яно над узгоркам Ваўкавыскага ўзвышша. Сведкам колькіх падзеяў быў Слонім за свой век — і хто толькі не праходзіў праз горад на працягу нашай гісторыі?!..

Аднак, даўнейшая гісторыя




Слоніма — гэта не мэта майго артыкула. Хочацца ў ім прыгадаць падзеі нядаўнія, сведкамі якіх мы былі і якія яшчэ засталіся яснымі ў памяці, а гэта падзеі 1939-1944 гадоў.

Нялёгкія былі гэтыя гады для Беларусі: вайна, разбурэнні, знішчэнне багаццяў нашага краю і згуба тысячаў людзей. Але ж поруч мы, беларусы, атрымалі і нейкую долю вольнасці. Мы заўзята працавалі для Беларусі, бо адчувалі, што нейкае святло, калі можна казаць пра святло на цёмным фоне вайны, заглянула

і ў наша ваконца, і мы атрымалі магчымасць прыпомніць пра 25 Сакавіка [1] і пра нашу незалежнасць. Нейкія, хоць крыху спрыяльныя ўмовы для пашырэння нашых незалежніцкіх ідэй з'явіліся практычна і мы дзеля іх працавалі. Працавалі для ідэі — для ідэі адраджэння Беларускай Дзяржаўнасці.

Але пачнем спачатку, пачнем з 17 верасня 1939 года, калі скончыўся для Слоніма, як і для ўсёй Заходняй Беларусі, няслаўны польскі перыяд і пачаўся новы — савецкі.

Ужо 17 верасня 1939 года быў заўважаны вялікі ўзрух беларусаў — "падымаючыся з нізін, ды імкнучыся да зор", бо і самыя новыя гаспадары да гэтага заклікалі, каб пазбыцца хоць і тонкіх, але ўсё ж нейкіх польскіх акупацыйных напластаванняў. У гэтым часе, успамінаючы ўсе няўвязкі і беды, беларускі рух мацнее і глыбее. Гэты беларускі ўздым засталі новыя акупанты — немцы, якія прыйшлі ў Слонім у чэрвені 1941 года. Хітрыя немцы многа абяцалі. Праўда, яны перадалі ў беларускія рукі мясцовую адміністрацыю (хоць не адразу), кіраванне Самапомаччу[2] і Самааховай[3]. Было дазволена арганізаваць беларускія школы. Святыні аднавілі сваю вялікую рэлігійную дзейнасць. Гэта якраз было даспадобы нашым дзеячам, якія не былі бяздзейнымі ды чакалі дазволу ад пераможцаў. Гэта былі людзі вялікай увагі і патрыятызму. Памятаю, што ў той час засталіся яшчэ вядомыя беларускія грамадаўцы з БСРГрамады, якая нядаўна[4] была забаронена і зліквідавана палякамі. Яны ўсе былі свядомымі беларусамі.

У самім Слоніме яшчэ перад вайной жылі на выгнанні са сваіх родных мясцінаў паэт



*Сяргей Новік-Пяюн*

Сяргей Новік-Пяюн, ксёндз Адам Станкевіч ды сталы жыхар Слоніма паэт Гальяш Леўчык. Недалёка ад Слоніма ў Чамярах пражываў паэт Анатоль Іверс (Іван Міско). Жыў у Слоніме таксама былы палкоўнік царскай арміі Язэп Стаброўскі, які ўмеў быць лаяльным кожнай уладзе. Ён, як этнограф Слонімшчыны, яшчэ пры польскай уладзе арганізаваў Слонімскі музей. Дзякуючы яму, музей перажыў усе палітычныя перамены — нават немцы не асмеліліся канфіскаваць музей — і ўсе каштоўныя экспанаты гэтага музея захаваліся ў цэласнасці да сённяшніх дзён.[5] Цяпер музей месціцца ў большых залах адпаведнага для музея будынку…

Напрыканцы польскай акупацыі ў Слоніме не было ніякай беларускай арганізацыі, але сувязь з Вільняй ніколі не перарывалася. Часам прыходзілі адтуль розныя весткі і нават газета "Крыніца", якую ўпотайкі можна было пачытаць.[6]

Калі пачалася Другая сусветная вайна, у Слонім у верасні 1939 года прыйшла новая ўлада — савецкая. Палякі альбо прытаіліся, альбо выехалі на захад. Новую ўладу ў Слоніме сустрэлі па-рознаму, але сімпатыкаў яе было многа. Толькі перад Новым годам пачало адчувацца, што новая ўлада апанавала жыццём Слонім. Я жыў тады ў роднай вёсцы, хоць меў уласны дом у Слоніме, які, што праўда, закончыў будаваць ужо пры саветах. Мяне цікавіла жыццё ў вёсцы, і хоць збіраўся пераехаць у Слонім, усё ж застаўся ў ёй. На гэта былі прычыны. Суродзічы папрасілі мяне заняцца мясцовай школай. У ёй было каля 200 дзяцей. Там працавала польская настаўніца, але яна не магла сабе даць рады, бо муж яе быў пакліканы ў армію. Таму пра беларускае навучанне яна ведала шмат менш за мужа, які там таксама працаваў.

На Новы 1940 год савецкі школьны інспектар склікаў з усяго Слонімскага раёна з'езд усіх настаўнікаў. Памятаю, як сабралася вялікая колькасць людзей у Народным доме і нейкі "таварышч" Кударэнка прамовіў да прысутных па-расейску на школьныя тэмы. Каб выклікаць большае ўражанне, ён дазволіў свайму намесніку перакласці некаторыя пытанні па-беларуску. Быў таксама запрошаны сказаць некалькі слоў і супрацоўнік Слонімскай раённай газеты Іван Міско (Анатоль Іверс)[7], як прадстаўнік ад горада Слоніма. Ён смела, па-беларуску адразу пакрытыкаваў некаторыя парадкі новае ўлады, даючы прыклад, што рэдакцыя не паспявае штодзень выдаваць газету, бо не толькі яго працаўнікі вымушаныя па некалькі гадзін стаяць у чарзе па хлеб, але і ён сам часта адлучаецца ад працы, каб шукаць сабе нейкую ежу.

Для ўсіх удзельнікаў з'езду настаўнікаў было ўсё добра арганізавана, нават Навагодні баль. У наступныя дні вучылі нас гісторыі камуністычнага інтэрнацыяналу ды сталінскай канстытуцыі, што было вельмі нудна слухаць.

У Слоніме да 1939 года налічвалася 27 тысяч насельніцтва. З прыходам саветаў у горадзе з'явіліся новыя людзі, а таксама шмат уцекачоў-жыдоў з Польшчы. Таму насельніцтва горада павялічылася ўжо да 35 тысяч. Праўда, саветы пачалі некаторых (багацейшых) вывозіць у Сібір. Але Слонім да прыходу немцаў быў перапоўнены.

З'явілася тады шмат савецкіх грошай. Я сам атрымліваў 900 рублёў у месяц за свае гадзіны працы ў школе з неадукаванымі дарослымі і з навабранцамі ў Чырвоную армію. Але некаторыя людзі чуць не галадалі, бо не мелі грошай.

Шумеў тады Слонім музыкай і дармовымі забавамі ў кіно і тэатрах. А па вёсках памалу пачалі заганяць сялянаў у калгасы. Людзі казалі: "Вось вам вызваленне з панскай нядолі ды ў калгасны прыгон. Цяпер, нібы ўсё нашае, толькі мы не свае".

Згаданы вышэй супрацоўнік Слонімскай раённай газеты паэт Міско-Іверс аднойчы надрукаваў у газеце патрыятычны свой верш, які пачынаўся радкамі:

Беларусам я радзіўся,
Беларусам буду жыць.
Беларускую зямельку
Буду шчыра я любіць…[8]

У лементарах пачатковых класаў быў верш "Дзве сястры"[9] — гэта азначала Усходнюю і Заходнюю Беларусь. Але мне асабіста вельмі спадабаўся верш "Беларусам я радзіўся…" з газеты і я загадаў усім сваім вучням вывучыць гэты верш на памяць. Нават прызыўнікам я чытаў гэты верш і тлумачыў ім, што мы цяпер не тутэйшыя, а беларусы, і што Бацькаўшчына наша — гэта Беларусь. Магу пахваліцца, што цяжкасцяў я не меў, калі займаўся школьнымі справамі. Першы год навучання ў сапраўднай беларускай школе быў скончаны ўдала. 29 чэрвеня 1940 года прыехаў да нас паэт Сяргей Новік-Пяюн, які быў падінспектарам беларускіх школ на Слонімшчыне. Як праўдзівы беларускі паэт і настаўнік, ён не мог нацешыцца, што нарэшце беларускія дзеці вучацца ў сваёй роднай школе на сваёй роднай беларускай мове. Прамаўляючы, ён заклікаў дзяцей заўсёды памятаць, што яны — беларусы. Ці ж гэта не было адраджэннем?

У самым Слоніме ўсе школы — пяцігодкі, дзесяцігодкі і нават настаўніцкія курсы — былі беларускія. Русіфікацыі яшчэ не было. Пераражылі мы яшчэ адзін школьны 1940-1941 год.

● ***Аляксандр Асіпчык***

*Працяг будзе ў наступным нумары.*



***Даваенны парк у Слоніме па цяперашняй вуліцы Пушкіна.***

*[1] 25 сакавіка 1918 года ў Менску была абвешчана дзяржаўная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР).*

*[2] Беларуская народная самапомач (БНС) — нацыянальная арганізацыя, якая дзейнічала ва ўмовах нацысцкай акупацыі ў генеральнай акрузе "Беларусь" у 1941-1944 гадах.*

*[3] Беларускі корпус самаахвы (Беларуская самаахова, БСА) — ваенізаванае фарміраванне на тэрыторыі генеральнай акругі "Беларусь" у 1942-1943 гадах.*

*[4] Беларуская сялянска-работніцкая грамада была забаронена польскімі ўладамі ў 1927 годзе.*

*[5] На жаль, падчас ваенных падзеяў частка экспанатаў музея была разрабавана.*

*[6] Маецца на ўвазе газета Беларускай хрысціянскай дэмакратыі ў 1917—1940 гадах. З 20 верасня 1925 да 15 красавіка 1937 года яна мела назву "Беларуская крыніца". Газета была легальная, але польскія ўлады часам чынілі перашкоды яе распаўсюду.*

*[7] А. Асіпчык памылкова называе Анатоля Іверса рэдактарам газеты "Вольная праца", што намі было выпраўлена.*

*[8] Аўтар успамінаў памыліўся. Гэта верш не Анатоля Іверса, а заходнебеларускага паэта Алеся Мілюця, які быў апублікаваны ў віленскім беларускім часопісе "Шлях моладзі" (1934, № 10. С.13).*

*[9] Маецца на ўвазе верш Янкі Купалы "Дзве сястры".*

# Падарожжа па Слонімшчыне восенню 1909 года

*Заканчэнне, пачатак ў № 3 і 4 за 2017 г*

"СК" заканчвае публікацыю пра паездку па тэрыторыі былога Слонімскага павета праваслаўнага мітрапаліта Уладзіміра (Вячаслава Ціханіцкага). У першых частках апісанае яго падарожжа па поўдні і захадзе былога Слонімскага павета. У гэтым нумары мы змяшчаем справаздачу пра наведванне Слоніма і Жыровічаў. Тэкст перадрукоўваецца з "Гродзенскіх епархіяльных ведамасцяў" (№ 51-52 ад 27 снежня 1909 года, старонкі 658-666).

● ***Генадзь Гурскі***



**Слонім — Быцень.**

У горад Слонім Уладыка прыбыў 29 верасня, у 11-й гадзіне ночы, і накіраваўся ў Свята-Траецкую царкву. Нягледзячы на позні час, храм быў поўны людзей, якія маліліся. Настаяцель царквы, святар а. Павел Травін звярнуўся да Уладыкі з прывітальным словам.

"Уладыка святы! У другі раз Ты здзяйсняеш сваё ўваходжанне ў гэты храм. Першае тваё наведванне нашага храма адзначылася вялікім дзеяннем ласкі Божай на сэрцы іншаверных. Настрой каталікоў памякчэў. Многія з іх сталі прымаць праваслаўныя святыні і аслабелі ў сваёй злаславасці да праваслаўнай царквы. Хай будзе дабраславёна і цяперашняе Тваё ўваходжанне. Дабраславёны Той, хто ідзе ў імя Гасподняе!".

У сустрэчы Уладыкі, акрамя а[йца] Травіна, прымалі ўдзел а[йцец] павятовы назіральнік [Н. Аносаў] і святар сабornай царквы а[йцец] Яўген Дружылоўскі. Па заканчэнні чыну сустрэчы, Уладыка звярнуўся да народа з кароткім словам, у якім дзякаваў прыхаджанам за асаблівую старанасць, увагу і любоў да яго, якія выявіліся ў тым, што, нягледзячы на позні час, яны ў мностве сабраліся сустрэць яго, і запрашаў усіх на наступны дзень прыйсці ў сабор памаліцца разам з ім за Боскай літургіяй. Усім прысутным Уладыкам былі раздадзеныя крыжыкі і брашуры.

На другі дзень, а 8-й гадзіне раніцы, у Свята-Траецкай царкве Уладыка слухаў ютрань, здзейсненую а[йцом] настаяцелем святаром П. Травіным. А ў 10 гадзін раніцы Уладыка прыбыў у сабор для здзяйснення Боскай літургіі. У агароджы сабора Уладыка быў сустрэты саборным старастам Леанідам Адольфавічам Абальянінавым, які вітаў Уладыку кароткай прамовай.

Уладыка прайшоў у сабор і тут быў сустрэты а[йцом] настаяцелем сабора протаіерэем а[йцом] Васілём Палянскім, віталі Праасвяшчэннага прамовай: "Уладыка святы, праз парог гэтага святога сабора ўжо не раз пераступалі многія свяціцелі. З радасцю сустракаем цябе, свайго Архіпастыра, каб у еднасці з табой узнесці малітвы да пасаду Усявышняга. Няма нічога больш прыемнага сэрцу, як на свае вочы бачыць Архіпастыра, вуснамі да вуснаў гаварыць з ім і маліцца з ім. Увайдзі, Уладыка, і хай будзе дабраславёна ўваходжанне і зыходжанне тваё, і няхай беражэ цябе Бог ва ўсіх шляхах тваіх".

Літургія была здзейсненая Яго Праасвяшчэнствам у саслужэнні настаяцеля Жыровіцкага манастыра, а[йца] Архімандрыта Феафілакта, протаіерэя Васіля Палянскага і святароў — Траецкай царквы г. Слоніма а[йца] П. Травіна, Шылавіцкай ц[арквы] а[йца] Антонія Дзікоўскага, Парэцкай царквы а[йца] Хведара Савіцкага і Дзераўнянскай царквы а[йца] Пятра Чуркіна.

Хор пеўчых пад кіраўніцтвам святара а[йца] Н. Аносава спяваў вельмі стройна і гарманічна. Галоўныя літургічныя спевы былі выканаы па-мастацку, з узорнай выразнасцю. Пры гэтым сам падбор песнапенняў быў у духу строга царкоўным, малітоўным.

Пасля чытання псалма павятовым назіральнікам, святаром а[йцом] Н. Аносавым было сказана слова пра ўладкаванні жыцця прыходу з запрашэннем да братняга яднання ў мэтах дасягнення вялікіх поспехаў на здзяйсненне агульнага дабрабыту і шчасця жыцця.

Пачаўшы з пытання, чаму нягледзячы на будні дзень у святы храм сабралася так шмат людзей, якія маліліся, і асабліва інтэлігенцыі, якая ў іншы час звычайна адсутнічае, прапаведнік знаходзіць тлумачэнне гэтага ў прывабнай

прыгажосці і чароўным харастве Архіерэйскага служэння. […]

У малітоўным яднанні паствы з сваім Пастырам-начальнікам — Епіскапам прапаведнік справядліва бачыць найвышэйшую ступень таго яднання, да якога заўсёды павінны імкнуцца хрысціяне.

На жаль, гэтага адзінства не відаць у практычным жыцці і дзейнасці прыхаджанаў. Паміж вернікамі прыходу пануе поўная раз'яднанасць, якая адбіваецца ў тым, што кожны жыве па сваім жаданні і разуменні, клапоціцца толькі пра асабістыя інтарэсы, пакідаючы ў баку інтарэсы іншых.

[…]

Пры выхадзе з сабора пасля заканчэння набажэнства, Уладыка быў сустрэты гімнам "Калі Слаўны", выкананым аркестрам музыкі 118-га Шуйскага пяхотнага палка. Тут жа стаялі войскі, якія пашыхтаваліся. Уладыка абышоў шэрагі салдат, выказаў ім дабрапажаданні і дабраславенне, ды пад гукі аркестра музыкі адбыў для наведвання навучальных устаноў. Наведваннем Уладыкі былі ўганараваныя — двухкласная жаночая царкоўна-прыхадская школа, гарадское вучылішча і прыватная жаночая гімназія Гарбачэвіч.

Наведаўшы навучальныя ўстановы, Уладыка накіраваўся ў гарадскую турму. Каля брамы турмы Уладыка быў сустрэты яе начальнікам, тытулярным дарадцам Леанідам Адольфавічам Абальянінавым. У яго суправаджэнні прайшоў у двор,



*Турма на скрыжаванні Мінскай і Турэмнай вуліц (цяпер — Савецкай і 8 Сакавіка) на плане Слоніма 1882 года.*



дзе былі сабраныя ўсе вязні. Адзін з вязняў, стаўшы на калені, паднёс Уладыку хлеб-соль на драўляным сподачку мастацкай работы. Іншы, таксама стаўшы на калені, паднёс Уладыку незвычайна вытанчаны ланцужок з конскага воласа на драўляным блюдзе мастацкай работы. Ланцужок зроблены самім арыштантам і над ім ён старанна працаваў на працягу цэлых трох месяцаў. Зняволеныя праспявалі Уладыку некалькі царкоўных спеваў, пасля чаго Архіпастыр звярнуўся да іх з кароткім глыбока задушэўным словам. Пахваліўшы вязняў за стройныя і згоднае спевы, Уладыка сказаў, што спеў малітвасловаў несумненна служыць для вязняў лепшым суцяшэннем у іх журботным жыцці. Пры гэтым Уладыка зазначыў, што і святыя апосталы Павел і Сіла былі ў кайданах і таксама суцяшалі сябе ў вязніцы малітоўнымі спевамі. […]

Адушаўлёнае слова Архіпастыра мабыць кранула самыя тайныя струны разлютаваных жыццёвымі нягодамі сэрцаў турэмных насельнікаў. Некаторыя з іх плакалі. І нельга было не замілавацца, убачыўшы гэтае кранальнае змякчэнне сэрцаў закаранелых злачынцаў. Відавочна пад грубай абалонкай і ў іх грудзях цепліцца іскра Божая, жыве бессмяротная, створаная паводле вобразу Божага душа з яе лепшымі памкненнямі да праўды і дабра. Грубыя гранітныя скалы, якія з цяжкасцю саступаюць сіле выбуховых рэчываў, часам кранаюцца пад уплывам ласкавых прамянёў сонца і цёплых кропель дажджу, — так і гэтыя агрубелыя сэрцы зняволеных былі кранутыя любоўным і ласкавым, глыбока падбадзёрваючым словам Уладыкі.

У адзначэнне наведвання турмы Архіпастырам, с[падар] начальнік турмы загадаў тутжа, у прысутнасці Праасвяшчэннага, раскаваць трох вязняў і зняць з іх кайданы.

Дабраславіўшы затым вязняў, Уладар пры спевах "многія гады" адбыў з турмы ў кватэру а[йца] настаяцеля сабора, протаіерэя Васіля Палянскага. Тут маленькая дачка а[йца] протаіерэя, Ларыса Палянская, вучаніца Еўфрасіннеўскай Пецярбургскай гімназіі, паднесла Уладыку кветкі і пры гэтым сказала кароткі верш-экспромт:

"Дабраславі, Уладыка
На шлях навучання,
На шчасце жыцця,
І вазьмі ад мяне
Мае кветкі"...

Ветлівым гаспадаром а[йцом] протаіерэем была прапанавана затым Праасвяшчэннаму трапеза, пасля чаго, а 5-й гадзіне вечара, Уладыка адбыў з г. Слоніма ў м. Жыровічы для здзяйснення ў саборы Жыровіцкага манастыра ўсяночнага трывання.

У сустрэчы Уладыкі ў Жыровіцкім саборы, акрамя а[йца] настаяцеля Архімандрыта Феафілакта, прымалі ўдзел: Слонімскі благачынны, протаіерэй В. Палянскі, павятовы назіральнік ц[аркоўных] школ свят[ар] Аносаў і святары — а[йцец] Уладзімір Карскі (Дзевяткавіцкай царквы), а[йцец] Антоній Дзікоўскі (Шылавіцкай царквы), а[йцец] Мікалай Юзвюк (Міронімскай царквы), а[йцец] Аляксандр Нядзельскі (Аляксееўскай царквы), а[йцец] Іосіф Вошчанка (Глоўсевіцкай царквы) і а[йцец] Мікалай Фамін (Межэвіцкай [Міжэвіцкай] царквы). Усяночнае трыванне здзейснена Яго Праасвяшчэнствам у саслужэнні тых жа згаданых асоб. На ўсяночным трыванні быў прачытаны акафіст Пакрову Божай Маці. Выдатна спяваў хор манастырскіх пеўчых-паслушнікаў. Да 12-й гадзіны ночы ўсяночная скончылася, і Уладыка са славай прайшоў у пакоі а[йца] настаяцеля.

На другі дзень, у свята Пакрова Божай Маці, у манастыры адслужаны былі тры ранніх літургіі, а ў палове 11-й пачата была позняя літургія, здзейсненая Архіерэйскім служэннем. У саслужэнні літургіі з Праасвяшчэнным Уладыкам прымалі ўдзел — настаяцель манастыра а[йцец] Архімандрыт Феафілакт, протаіерэй В. Палянскі і святары — а[йцец] В. Карскі, а[йцец] А. Дзікоўскі, а[йцец] Н. Аносаў, а[йцец] А. Нядзельскі, а[йцец] І. Вошчанка і а[йцец] Н. Фамін. Псаломшчык Дзярэчынскай царквы Іаан Шыпкоўскі быў пасвечаны ў стыхары. Пасля прычаснага псалма а[йцец] настаяцель манастыра Архімандрыт Феафілакт вымавіў прыстойнае урачыстасці слова, у якім расказаў коратка гісторыю свята Пакрова Божай Маці. […]

По заканчэнні літургіі быў здзейснены малебен Божай Маці. Спявалі два хоры, манастырскі і вучнёўскі Жыровіцкага духоўнага вучылішча. Сабралася вялізная колькасць людзей — да 15 тысяч.



2-га кастрычніка Уладыка наведаў духоўнае вучылішча, Жыровіцкую двухкласную царкоўна-прыхадскую школу і народныя вучылішчы — мужчынскае і жаночае. Звярнуў на сябе ўвагу Уладыкі сваёй працавітасцю і адданасцю навучальнай справе настаўнік мужчынскага народнага вучылішча Тарасій Сацук, якому Уладыка выказаў сваю падзяку. Навучэнцам ва ўсіх школах Уладыкам былі раздадзеныя крыжыкі.

А 7-й гадзіне гадзін вечара ў будынку духоўнага вучылішча быў арганізаваны вакальна-музычны вечар, які складаўся з харавога спеву гімнаў і выканання даволі значнай колькасці самых разнастайных нумароў аркестрам, складзеным з розных інструментаў, а менавіта: скрыпак, мандалін, домр і фісгармоніі. Хорам і аркестрам кіраваў настаўнік спеваў і музыкі ў вучылішчы В. Ф. Тэадаровіч. Асабліва быў уганараваны адабрэннем і ўхвалай Уладыкі аркестр. Па заканчэнні вечара Уладыка звярнуўся да выхаванцаў вучылішча з словам, у якім дзякаваў ім за дастаўленае задавальненне і адзначыў клопаты іх начальства не толькі пра разумовае і маральнае выхаванне іх, але і пра фізічнае (маецца ў вучылішчы пераплётная майстэрня) ды эстэтычнае. Такія клопаты начальства абавязваюць выхаванцаў быць удзячнымі і руплівымі, каб ўзрасці Стваральніку на славу, бацькам на суцяшэнне, царкве і Айчыне на карысць. Выканаўцам на вечар Уладыка падарыў па гасцінцы. На наступны дзень Уладыка пажадаў развітацца з усімі выхаванцамі і дабраславіў іх. А 10-й гадзіне раніцы ўсе выхаванцы вучылішча былі сабраны ў актавай зале. Уладыка кожнага выхаванца блаславіў крыжыкам. Наглядчык вучылішча Е. О. Красін у сваёй прамове дзякаваў Уладыку за наведванне вучылішча. Пры шматразовых спевах [пагрэцку] “На многія гады, Уладыка”, Праасвяшчэнны адбыў з духоўнага вучылішча для далейшага следавання ў с. Міронім.

Пры уступленні ў Міронімскі храм прывітальнае слова было сказана настаяцелем царквы святаром а[йцом] Мікалаем Юзвюком. У сваім слове ён адзначыў, што прыхаджане не дастаткова руплівыя да свайго храму, што яны больш любяць наведваць Жыровіцкі манастыр, чым свой прыходскі храм. У сустрэчы бралі ўдзел, акрамя а[йца] Юзвюка, а[йцец] павятовы назіральнік ц[аркоўных] школ і святары: а[йцец] Аляксандр Нядзельскі, Аляксееўскай царквы, і а[йцец] Мікалай Рудакоўскі, Гавейнавіцкай [Гавенавіцкай, цяпер в. Падгорная Баранавіцкага раёна] царквы.

[…]

З Міроніма Уладыка адбыў у м. Быцень.

# У слонімскай турме палітвязні выратаваліся ад расстрэлу

Турма ў Слоніме на колішняй Мінскай вуліцы (цяпер — Савецкай) была пабудавана расійскімі царскімі ўладамі яшчэ ў другое дзесяцігоддзе XIX стагоддзя. Яна выкарыстоўвалася пасля нямецкімі, польскімі, савецкімі ўладамі, аж да 1954 года, калі была зачынена (доўгі час у будынку дзейнічала туберкулёзная бальніца).

У чэрвені 1941 года ў слонімскай турме савецкія ўлады ўтрымлівалі пераважна палітычных вязняў. У дадатку да варшаўскай газеты “Reczpospolita” (нумар ад 22-23 чэрвеня 2011 года) “Lato 1941 — polski dramat” былі надрукаваныя ўспаміны Збігнева Дзяконскага, вязня слонімскай турмы ў 1941 годзе. Ён піша:

“З Ружанаў прывезлі нас у турму, так званую Белую, у Слоніме (...). Канец майго знаходжання ў турме надыйшоў у чэрвені 1941 г. Нас здзівіла, што ўпершыню ў турме было выключанае ўсё святло. (...) На трэці дзень увечары (гэта быў трэці дзень вайны) нас выводзілі па адным з розных камераў. Мы стаялі ў калідоры перад турэмным бюро, дзе яшчэ раз праверылі асабістыя дадзеныя. Быў зачытаны прысуд: “Па ўказу Савецкага Саюза, па артыкуле такім і такім... — на расстрэл” (...) Пасля нас выводзяць на двор, сталі мы пад сцяной насупраць уваходу. (...) Пасля прыйшла група для расстрэлу нас (...) пачалі рыхтаваць зброю і ў гэты час пачаўся паветраны бой самалётаў над намі. (...) Яны кінулі бомбу ў нас (...) разбурыла сцяну. (...) Савецкія салдаты ўцяклі і схаваліся [ад бамбёжкі] ў канавы. (...) Мы выйшлі праз сцяну”.



На жаль, невядома, колькі было чалавек у групе збеглых вязняў, і ці паспелі каты з НКУС кагосьці расстраляць. У дакладной запісцы начальніка ўпраўлення НКУС БССР М. Апалева ад 3 верасня 1941-га адзначаецца: “Начальнікі турмаў г. Слоніма Сакавушын і турмы Ваўкавыска Ладугін з Беларусі збеглі. Пра лёс асабістага складу і зняволеных турэмнаму ўпраўленню нічога невядома. Пры гэтым Сакавушын завалодаў грашовымі сумамі турмы, а каштоўнасці зняволеных раздаў наглядчыкам”.[1]

Можна меркаваць, што на волю вырвалася не толькі згаданая група, асуджаных на расстрэл, але і іншыя вязні. Барыс Данілюк у сваіх успамінах згадвае жыхара Глоўсевічаў, які быў арыштаваны ў чэрвені 1941-га. Яго сям’ю вывезлі ў Казахстан, а самога змясцілі ў турму ў Слоніме. “Як пачалася вайна, вязням слонімскае турмы пашчасціла выйсці жывымі на свабоду, і Грыша вярнуўся ў пустую хату ў Глоўсевічах”, — піша Данілюк.

● ***СЁ***

*Здымкі* ***Сяргея Чыгрына.***

---

*[1] Приказано приступить: Эвакуация заключенных из Беларуси в 1941 году: сборник документов. — Мінск, 2005. С. 51.*

*[2] Данілюк Б. Азіраючыся расой выетымі вачыма: Успаміны. — Мінск, 2012. С. 232.*



# Як на Замосці ў Слоніме ў 1652 годзе збілі маскоўскага пасла

У снежні 1651 года маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч паслаў у Варшаву да караля Яна-Казіміра свайго пасла Герасіма Дохтурава. Ён быў вопытным дыпламатам, ужо меў на сваім рахунку выкананне важных місій у Даніі і Англіі. Ехаў Дохтураў праз Смаленск, Оршу, Менск, Наваградак, Слонім, Бельск. Па дарозе адпраўляў назад, у Масковію, сваіх людзей з разведвальнымі дадзенымі. У сярэдзіне студзеня 1652-га пасол дабраўся да Варшавы, сустрэўся з каралём і вялікім князем, перадаў яму царскія граматы, атрымаў граматы для цара.

13 лютага Герасім Дохтураў выехаў з Варшавы на радзіму. Да мяжы з Вялікім княствам яго суправаджаў шляхціч Марцін Балдзіцкі, ад мяжы — шляхціч Ян Баброўскі.

25 лютага 1652 года маскоўскі пасол і асобы, якія яго суправаджалі, прыехалі ў Слонім. Пра тое, што там адбылося, Дохтураў напісаў у сваёй справаздачы.* Баброўскі заявіў маскавіту, што слонімскі "войт схаваўся" і няма дзе ўзяць свежых коней, а ў мяшчан коней "пабралі жаўнеры". Яны пераначавалі, а на наступны дзень шляхціч Ян Баброўскі "пахапаў… падводы нямногія на таргу [у Слоніме] і аддаў ганцу [паслу]". Сам Баброўскі застаўся ў карчме і незразумела, ці ён ведаў, што чакае маскоўскага пасла, ці проста "расслабіўся" пасля цяжкай дарогі.



У сваіх запісах Дохтураў піша, што як толькі ён пераехаў мост праз Шчару і апынуўся на Замосці, на яго людзей напалі. Нібыта, сам ксёндз Пац паслаў каля 30 чалавек ("ураднікаў і мужыкоў"), узброеных шаблямі і палкамі. Яны збілі асоб, якія суправаджалі пасла, забралі падводы, "лаяліся і казалі: "не павінен і кароль на шляхецкіх падводах ездзіць". Як бачым, слонімцы былі абураныя, што падводы з коньмі былі адабраныя ў шляхты.

Падчас сутычкі пасол гаварыў нападнікам, што ён тут ні пры чым, бо атрымаў падводы ад шляхціча, які яго суправаджаў. А пасля і прыгразіў: напішу скаргу каралю. Прысутны "ураднік" Якуб Сімашка назваў караля "здраднікам і Хмяльніцкага братам" ды ўдарыў Дохтурава шабляй плазам па руцэ. У гэты момант з'явіўся ксёндз Пац, які паспрабаваў запэўніць маскоўца, што здарэнне адбылося без яго ўдзелу. Ён паабяцаў, што пакарае Сімашку ды прасіў не скардзіцца каралю.

Аднак Герасім Дохтураў, зняважаны і пакрыўджаны, ад свайго намеру не адмовіўся. Ён са сваімі людзьмі вяртаўся ў цэнтр Слоніма праз мост (відаць, пешшу), калі з'явіўся шляхціч Ян Баброўскі. Маскоўскі пасол яму выказаў ўсё, што пра яго думаў: і падводы не тыя ён знайшоў, і "у корчмах для п'янства застаецца заўсёды". Дохтураў патрабаваў, каб шляхціч напісаў скаргу каралю на ксяндза Паца. Але ў Баброўскага ніякага жадання пісаць скаргі не было, сказаў, што да караля і пасланць няма каго, а мясцовыя яго не паслухаюцца: "людзі ў іх вольныя". У той жа дзень шляхціч знайшоў на рынку ў Слоніме іншыя падводы з коньмі і пасол са сваімі людзьмі паспяшаў выехаць з горада.

Да пачатку страшэннай вайны Рэчы Паспалітай і Маскоўскай дзяржавы заставалася толькі два гады…

● ***Генадзь Гурскі***

**Архивъ Юго-Западной Россіи, издаваемый комиссією для разбора древнихъ актовъ, состоящей при Кіевскомъ, Подольскомъ и Волынскомъ Генералъ-Губернаторе. Часть третья. Том IV. Акты, относящіеся къ эпохе Богдана Хмельницкаго. — Кіевъ, 1914. С. 674-686.*

"Слонімскі край" можна чытаць на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі "Камунікат": http://kamunikat.org/

**"Слонімскі край"** — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару ***Сяргей Ёрш***.

Наш адрас: **slonimskikraj@gmail.com**
Спасылка на "СК" пры перадруку абавязковая.